На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

№ 73 (1138)

Чацвер, 19 красавіка 2001 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля




# СЁННЯ – НАЦЫЯНАЛЬНЫ "СЕЛЕКТАР".

## Зноў будуць вучыць селяніна араць і сеяць

# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

## Профсоюзные лидеры не хотят, чтобы их адвокатом был Сергей Посохов

В.ГОНЧАРИК, председатель Федерации профсоюзов Белорусской, А.БУХВОСТОВ, председатель профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, Г.ФЕДЫНИЧ, председатель профсоюза работников радиоэлектронной промышленности, А.ЯРОШУК, председатель профсоюза работников агропромышленного комплекса обратились с открытым письмом к руководителям средств массовой информации. Этот шаг вызван тем, что 5 апреля 2001 года Администрация президента Республики Беларусь направила в Министерство промышленности, Министерство сельского хозяйства и продовольствия, областные исполнительные комитеты и Мингорисполком письмо за подписью помощника президента по связям с общественными организациями С.А.Посохова. Вот его полный текст:

*6 апреля 2001 года Совет Федерации профсоюзов Белорусской проводит Республиканское собрание представителей профсоюзных организаций с участием представителей Международной организации труда и международных профобъединений с повесткой дня: "О выводах и рекомендациях Комитета по свободе Ассоциаций административного совета МОТ, касающихся обращения о нарушении прав профсоюзов в Беларуси".*

*При этом возникают объективные вопросы, которые следовало бы задать организаторам данного скоропалительного мероприятия: есть ли решение президиума ФПБ о проведении этого собрания, кто явился его инициатором и кто его финансирует (имеется информация, что эту роль исполнил Московский филиал МОТ). Так ли это? 28 марта 2001 г. состоялось заседание МОТ и почему проявляется такая спешка с проведением собрания, не дожидаясь принятия конкретных мер со стороны Совета министров Республики Беларусь? Не является ли эта акция очередным политическим заказом возможного кандидата в президенты господина Гончарика?*

*Считаем необходимым провести работу в трудовых коллективах по разъяснению сути данной акции,* ***организовать выступления в СМИ участников собрания с конкретными ответами на поставленные вопросы.***

Профсоюзные лидеры отмечают, что на все вышеперечисленные вопросы Федерация профсоюзов уже неоднократно отвечала на страницах независимых СМИ. "Да, было соответствующее решение президиума ФПБ, мы не делаем секрета из того, кто конкретно был инициатором обращения в МОТ и проведения Республиканского собрания представителей профсоюзных организаций. Мы готовы ответить на все остальные возникающие вопросы в прямом эфире электронных СМИ и на страницах государственных газет, если нам наконец-то будет представлена такая возможность. Непонятно, почему разъяснения по поводу профсоюзного мероприятия должен давать г-н Посохов, а также Министерства промышленности, сельского хозяйства и продовольствия, облисполкомы и Мингорисполком, а не сами профсоюзы. Мы готовы к диалогу и рассчитываем на Ваше содействие. В вышеприведенном письме за подписью С.А.Посохова высказаны рекомендации государственным средствам массовой информации предоставить участникам собрания, а следовательно, и ФПБ, эфирное время и место на страницах газет для разъяснения широкой общественности своих позиций по поводу обращения белорусских профсоюзов в МОТ, а также по всем остальным жизненно важным для будущего Беларуси вопросам. Просим Вас определить время и формат нашего участия в освещении этих вопросов в средствах массовой информации".

**Страницы "Народной воли" всегда доступны для профсоюзов, а вот дадут ли возможность В.Гончарику и его коллегам высказаться в государственных СМИ — посмотрим.**



## У Гомельскай вобласці можа з'явіцца новы старшыня аблвыканкама

25 красавіка ў Гомельскай вобласці можа з'явіцца новы старшыня аблвыканкама. Як паведаміў БелаПАН старшыня Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў Валерый Сяліцкі, на гэтае чысло прызначана пазачарговая сесія, дзе плануецца разгледзець кадравае пытанне — аб выбарах старшыні аблвыканкама. Не выключана, што ў працы сесіі возьме ўдзел прэзідэнт Беларусі.

Цяперашні кіраўнік вобласці Мікалай Вайцянкоў падаў прашэнне аб адстаўцы па стане здароўя.

**Ірына ШАНЦАВА.**



НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# ... А СЕЛЯНІН ВЫЕХАЎ У ПОЛЕ НА КУЛЬГАВЫМ КАНІ



Фота IREX/ProMedia.

Бадай ніколі з такой цяжкасцю і напругай не вялася падрыхтоўка да веснавой сяўбы і асабліва яе пачатку, як сёлета. Можна сказаць, што выхад у поле адбыўся на кульгавым кані. Вясенне-палявыя работы пачаліся пры надзвычай дрэнным стане тэхнікі.

За час праўлення краінай А.Лукашэнкі колькасць трактароў скарацілася на 30%, у спраўным стане перад пачаткам палявых работ было толькі 70% наяўных машын.

Але задзейнічаць і тое, што засталося ад вытворчага патэнцыялу, няпроста, бо бракуе фінансавых рэсурсаў. Супрацоўнікі Мінсельгасхарча падлічылі, што дзеля задавальнення першапачатковых патрэб для правядзення вясенне-палявых работ для калгасаў і саўгасаў патрэбна 56О мільярдаў рублёў. Сума, як бачым, немалая. Такіх грошай няма ні ў бюджэце, ні ў камерцыйных банках, тым больш у гаспадарках. Але ж пасеяць трэба, вясна чакаць не будзе. Таму ўрад і ўся ўладная вертыкаль узмоцнена шукаюць грошай. Дзе іх можна ўзяць, з якіх крыніц?

Першая крыніца — узяць грошы ў прамысловых прадпрыемстваў. Яшчэ з пачатку года ва ўрадзе ўзнікла ідэя павялічыць стаўку адзінага плацяжу ў рэспубліканскі фонд падтрымкі вытворцаў сельгаспрадукцыі з 2% выручкі да 3%. Але на такі крок ва ўрадзе не адважыліся. І без гэтага прамысловыя прадпрыемствы, абкарнаныя ў фінансавым плане праз непамерныя падаткі і розныя плацяжы, не маюць патрэбнага абаротнага капіталу, празмерна закрэдытаваны, у іх няма грошай нават для своечасовай выплаты заработнай платы.

Таму ў А.Лукашэнкі, відаць, з цяжкасцю паднялася рука падпісаць Указ №7 і павялічыць стаўку азначанага плацяжу з 2,0 да 2,4%. Як кажуць, змусіла вялікая нястача. Толькі гэтая мера ў прынцыповым плане праблему не вырашае, бо папаўняе адмысловарэспубліканскі фонд толькі на 24 млрд. рублёў. Але, як кажуць, і гэта хлеб.

Другая крыніца — рэсурсы камерцыйных банкаў. Але гэтыя банкі летась ужо былі "абчышчаны". У лютым Беларусь наведала місія міжнародна-валютнага фонду (МВФ). Яна запатрабавала ад беларускага боку спыніць прымус у адносінах да камерцыйных банкаў, не ператвараць крэдытаванне ў фінансаванне за кошт рэсурсаў банкаўскай сістэмы. Калі гэтая ўмова не будзе выканана, то Беларусь не пабачыць жаданых замежных крэдытаў.

Трэцяя крыніца так званага фінансавання весновай сяўбы — эмісія грошай. Але ў гэтым кірунку беларускім фінансістам і банкірам двойчы павязалі рукі. З аднаго боку, узяты жорсткія абавязацельствы перад МВФ не пакрываць дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту шляхам эмісійных крэдытаў. З другога — Расія таксама будзе сачыць за паводзінамі Беларускага Нацыянальнага банка ў эмісійнай справе. Уключыць Нацыянальны банк друкарскі станок — Расія не рызыкне даваць стабілізацыйны крэдыт як у валюце, так і ў рублях.

Апроч знешніх абмежаванняў ёсць і ўнутраныя. Пачне Нацыянальны банк пакрываць патрэбы сельскай гаспадаркі пры дапамозе эмісійных крэдытаў — інфляцыя, як і летась, будзе разбураць эканоміку краіны і забіраць у людзей апошняе. Рост спажывецкіх цэн і без гэтага за першыя тры месяцы года дасягнуў амаль 14%, удвая перакрыўшы прагнозы.

Тым не менш ва ўмовах вострага дэфіцыту фінансавых рэсурсаў урад не ў стане ўстрымацца ад эмісіі грошай. Факт застаецца фактам: дэфіцыт бюджэту ў памеры 160,5 мільярда рублёў напрацягу года запланавана пакрыць праз эмісійны крэдыт. Толькі за першыя два месяцы года гэты крэдыт дасягнуў 68 мільярдаў рублёў, альбо 42% гадавой нормы. Калі так пойдзе і далей, то да сярэдзіны года будзе выбраны ўвесь гадавы рэсурс. І падобна на тое, што так яно і будзе, бо, апроч гэтай крыніцы, у руках дзяржавы няма іншых. А тыя, што ёсць, скіраваны толькі на размеркаванне і пераразмеркаванне выпрацаванага прадукту і атрыманага даходу і толькі могуць пагоршыць становішча спраў у іншых галінах вытворчасці.

Сельская гаспадарка не мае дастаткова мінеральных угнаенняў. Таму ўлады ідуць на ўсё, каб знайсці неабходныя сродкі. Напрыклад, са стабілізацыйнага фонду г.Мінска вырашана выдзеліць для закупкі мінеральных угнаенняў 25 мільярдаў рублёў. Але не хапае яшчэ 65 мільярдаў рублёў. І тут улады пайшлі на адчайны крок. Вертыкалі рэгіёнаў было даручана адшукаць гэтыя грошы, нібы рэгіёны багацейшыя за цэнтр. І пачалася адміністрацыйная самадзейнасць.

У Мінску вырашылі правесці тры рабочых суботнікі на прадпрыемствах (24 сакавіка, 7 красавіка і 5 мая), а грошы забраць у казну. У некаторых раёнах, напрыклад, у Дзяржынскім, проста абавязалі ўсе прадпрыемствы розных форм уласнасці звыш усялякіх падаткаў і плацяжоў штомесячна адлічваць дзяржаве значныя сумы на правядзенне веснавой сяўбы. У некаторых раёнах абавязалі нават настаўнікаў адпрацаваць на карысць саўгасаў і калгасаў, або ў зручны час на полі ці на фермах, быццам такі зручны час у педагогаў ёсць.

З палівам праблема вырашаецца працай. Ужо не адзін год дзяржава выдае калгасам і саўгасам паліўны крэдыт. Затым ён вяртаецца гаспадаркамі і на наступны год зноў запускаецца ў звыклы кругазварот. Вось і зараз А.Лукашэнка прыняў рашэнне пазычыць гаспадаркам 20 тысяч тон паліва. Знойдзены выхад з тупіковай сітуацыі. Але ж натуральны крэдыт будзе аплачвацца коштам той прадукцыі, якую яшчэ трэба атрымаць. Значыць, і пасля будучых закупак дзяржавай сельгаспрадукцыі касы гаспадарак зноў будуць пустымі.

Грошай няма і не будзе, бо чакаць высокага ўраджаю пры такой арганізацыі і забеспячэнні веснавой сяўбы — дарэмная справа.

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар.**

# БОРИСОВСКИЙ ПОЛИГОН

## Здесь отрабатываются избирательные технологии одурачивания электората

*Выборы в Палату представителей по Борисовскому городскому избирательному округу №77 заинтересовали меня отнюдь не как процесс определения еще одного депутата в так называемый парламент. Интересно было посмотреть своими глазами, что имел в виду ведущий "Рэзананса", когда говорил: выборы в Борисове станут генеральной репетицией выборов президентских.*

150-тысячный Борисов был избран властями в качестве полигона для обкатки избирательного процесса на уровне определения главы государства. А посему важно присмотреться к некоторым весьма специфическим технологиям этого действия, дабы вовремя подумать над тем, что можно противопоставить коварству власть предержащих.

*Итак, первый этап: отсечение реальных кандидатов на победу еще на стадии регистрации.* Осенью в первом "раунде" выборов (они не состоялись из-за того, что более половины потенциальных избирателей проигнорировали это мероприятие) в бюллетенях было 9 фамилий, в марте осталось только 3. Причем все три кандидата, занявшие места с первого по третье включительно по результатам осеннего волеизъявления горожан, на этот раз в бюллетенях не значились. За бортом оказались предприниматель, афганец, бывший комсомольский вожак, хотя они все стремились пройти выборы повторно. По разным причинам их не зарегистрировали. Почему жертвами стали именно они? По мнению окружной избирательной комиссии, это просто совпадение, что претенденты, имевшие самый высокий рейтинг, оказались нарушителями закона. Пострадавшие уверены в обратном: их умышленно "вырубили". И потому для кандидата, которому покровительствовали власти, соперниками не стали. Что, и дураку понятно, облегчало тому путь к депутатскому мандату.

В результате в бюллетенях оказались полковник (именно ему симпатизировали городские власти), директор школы и инженер из Партии коммунистов Белорусской (Сергея Калякина). При таком раскладе можно переходить к следующему шагу.

*Второй этап: обеспечить как можно более высокую явку избирателей.* Ведь для поддержания авторитета нужно не просто выиграть, а одержать убедительную победу, какую, к примеру, фиксируют в некоторых видах спортивных единоборств: за явным преимуществом. Чтобы потом неустанно повторять: народ меня поддерживает. Для этого требуются "красивые" цифры. И они получаются, особенно, если подходить к процессу "творчески". Только досрочно в Борисове проголосовало более 20 процентов (!) избирателей. Впрочем, по этому показателю пригородный город оказался далеко не рекордсменом. Нашлись такие, где количество избирателей, пожелавших опустить свой бюллетень до дня голосования, превысило половину всего списочного состава! Таким образом, кое-где в воскресенье участки пустовали, выборы здесь состоялись еще до дня выборов!

Казалось бы, здесь можно возразить: ведь никто не знает, за кого конкретно проголосуют борисовчане во время президентских выборов. "Загонят" их на участки, а они возьмут да назло отдадут голоса другим кандидатам. Можно было бы и так рассуждать, если бы в бюллетени были внесены приемлемые для народа претенденты. Однако, проектируя борисовскую реальность на всю страну, получаем следующее трио: Лукашенко, Калякин (тут может быть и лидер другой партии), плюс некий малоизвестный обществу и "нераскрученный" интеллигент. В такой компании и те, кто жаждет перемен, пожалуй, отложат осуществление своего желания до следующего раза. Так волеизъявление народа направляется в нужное властям русло.

Но чтобы подстраховаться лишний раз, власть, как показал борисовский опыт, прибегает к различным трюкам, или, как их в простонародье называют, хитрикам. И это — третий этап.

Зарегистрироваться в борисовском округе первоначально позволили не только троим уже упоминавшимся кандидатам, но и четвертому — редактору газеты "Борисовские новости" Анатолию Букасу. Однако в самый последний момент, что называется, на финишной прямой под предлогом того, что некоторые подписи в поддержку журналиста были собраны в рабочее время, окружная комиссия вынесла решение об отмене регистрации. Между тем к этому времени по городу уже были развешены предвыборные плакаты, на которых запечатлены четыре, а не три претендента. Правда, под портретом Букаса небольшими буквами сообщалось, что он не прошел регистрацию. Но кто там особенно присматривается к таким надписям! И получилось, что многие шли на избирательные участки с намерением проголосовать именно за редактора. О чем и говорили они журналистам, приехавшим на выборы в пригородный город. Конечно, они сожалели о том, что не смогли поддержать своего кандидата. Но блиц-опрос обманутых показал: подавляющее большинство, несмотря на обиду, все же проголосовали за иного кандидата. "А что делать? — говорили они. — Уж так заведено, коль пришли, то и бюллетени взяли, и в урну опустили".

*Четвертый этап — это включение на всю катушку административного ресурса.*

Потупив взгляд, председатели и их заместители с участковых комиссий (рядовые члены комиссий под любым предлогом избегали давать интервью) абсолютно одинаково объяснили резкое увеличение избирателей весной по сравнению с осенью: мол, с населением поработали. Как и кто конкретно работал, никто объяснять не стал: мол, сами не дети, все понимаете. А в городе говорили о том, что для досрочного голосования людей освобождали от работы, голосовать заставляли под угрозой лишения премий, выселения из общежитий, отключения горячей воды. Рассказывали, что члены некоторых избиркомов без предварительных заявлений избирателей ходили по квартирам, предлагая жильцам проголосовать на дому.

**На первый взгляд, в подобных действиях властей нет никакой логики. И в самом деле, зачем так изгаляться на каких-то ничего не определяющих довыборах, не лучше ли прислушаться к призывам международных организаций и провести кампанию по демократическим стандартам? Думаю, если бы вся кампания ограничивалась только довыборами в так называемый парламент, власти никогда не вели бы себя столь бесцеремонно и круто. Но в их поступках проглядываются ясная логика и четкий план. Своими действиями они показывают, что и не думают организовывать хотя бы относительно свободные выборы главы белорусского государства. Взамен нам намерены навязать суррогат и дешевую имитацию президентской кампании.**

**Владимир ГЛОД.**

*Борисов — Минск.*

Народная Воля
19 КРАСАВІКА 2001 г.



Караліна Орсік упершыню ўзяла скрыпку ў рукі, калі ёй было 7 год. А зараз яна ўжо ў сёмым класе СШ № 1 г.Дзятлава. І скрыпка пры ёй таксама, бо Караліна яшчэ вучыцца ў Дзятлаўскай музычнай школе. У 2000 годзе на абласным конкурсе дзяўчынка стала пераможцай.

**На здымку:** *Караліна з выкладчыкам музыкі Аксанай Шэінай.*

**Фота Наталлі АБЛАЖЭЙ, БелТА.**

НАВІНЫ

## СНІД — палавым шляхам

**У Беларусі назіраецца тэндэнцыя росту перадачы ВІЧ-інфекцыі палавым шляхам. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІД (РЦПС).**

Паводле слоў спецыялістаў, раней да 98 працэнтаў новых выпадкаў заражэння ў рэспубліцы рэгістравалася сярод спажыўцоў ін'екцыйных наркотыкаў. Аднак у апошнія месяцы расце палавы шлях перадачы інфекцыі, на долю якога сёння прыпадае прыкладна 30 працэнтаў ад агульнай колькасці новых выпадкаў заражэння.

Згодна з аператыўнымі звесткамі РЦПС, на 1 красавіка 2001 года ў Беларусі зарэгістравана 3452 ВІЧ-інфіцыраваных. З пачатку года выяўлена 173 новых выпадкі заражэння гэтым смяротна-небяспечным вірусам. Напрыклад, толькі ў сакавіку ВІЧ-інфекцыя была выяўлена ў 36 чалавек. З рэгіёнаў рэспублікі ў гэтай сумнай статыстыцы лідэрства па-ранейшаму належыць Гомельскай вобласці, дзе на пачатак красавіка было зарэгістравана 2446 ВІЧ-інфіцыраваных.

Найменш схільнай да распаўсюджвання смяротнага вірусу застаецца пакуль Віцебская вобласць — 77 афіцыйна зарэгістраваных выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. У Мінску па стане на 1 красавіка былі выяўлены 403 вірусаносьбіты і з пачатку года іх колькасць узрасла на 36. Пры гэтым спецыялісты РЦПС канстатуюць, што інфекцыя ўсё актыўней пранікае ў прыгарады сталіцы: з мінулага года інтэнсіўнае распаўсюджванне ВІЧ-інфекцыі пачалося ў Сцяпянцы, Мачулішчах, Калодзішчах і іншым наваколлі, дзе распаўсюджана ўжыванне наркотыкаў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Брэст: "акцыя са свечкамі"

**Брэсцкі гарвыканкам адмовіў групе брэстчан у правядзенні жалобных мерапрыемстваў з нагоды 15-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік абласнога аддзялення БНФ "Адраджэньне" Рыгор Бакіевіч, у гарвыканкам была пададзена заяўка з просьбай дазволіць правядзенне мітынгу на плошчы Леніна з 19 да 20 гадзін, а з 20 да 21 гадзіны — правядзенне шэсця па вуліцы Леніна ад каталіцкага касцёла да праваслаўнай царквы. 17 красавіка заяўнікі атрымалі ў адказ ліст гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Вячаслава Хафізава, у якім змяшчалася адмова на арганізацыю акцыі. Кіраўніцтва горада матывуе сваё рашэнне тым, што на плошчы і вуліцы Леніна правядзенне падобных мерапрыемстваў забаронена. Улады прапаноўваюць правесці мітынг на стадыёне "Будаўнік", які знаходзіцца на ўскраіне горада.

Як стала вядома БелаПАН, памятныя мерапрыемствы ў Брэсце, нягледзячы на забарону ўлад, усё ж адбудуцца. На 23 красавіка запланавана прэс-канферэнцыя з удзелам прадстаўнікоў шэрагу грамадскіх арганізацый вобласці, якія займаюцца постчарнобыльскімі праблемамі. 26 красавіка яны плануюць "акцыю са свечкамі" ўздоўж адной з цэнтральных вуліц горада.

Жалобныя мерапрыемствы ў гэты дзень пройдуць таксама ў Бярозе, Кобрыне і Пружанах.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## "Беларуская проза і паэзія XX стагоддзя"

**У мінскім Доме прэсы прайшла прэзентацыя кніг з серый "Беларуская проза і паэзія XX стагоддзя" выдавецтва "Мастацкая літаратура" і "Беларускі кнігазбор", выпушчаных аднайменным выдавецтвам. Серыі прадстаўлены аднатомнікамі, у якія ўвайшлі творы беларускіх празаікаў і паэтаў Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Івана Пташнікава, Ларысы Геніюш, Кузьмы Чорнага, Элізы Ажэшка, Паўлюка Труса і іншых.**

Як адзначыў на прэзентацыі галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Георгій Марчук, аб нацыянальнай культуры можна гаварыць, пакуль у краіне існуюць беларускія пісьменнікі і іх кнігі.

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" ("МЛ") у асноўным выдае кнігі беларускіх сучаснікаў, у той час як "Беларускі кнігазбор" аддае перавагу класічнай літаратуры. У бліжэйшы час "МЛ" плануе выпусціць яшчэ некалькі серый — "Беларуская камедыя", "Беларуская драма" і "Беларуская байка".

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Знік палітык

**Знік старшыня Буда-Кашалёўскай (Гомельская вобласць) раённай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Ігар Кекелеў. Такое меркаванне выказаў БелаПАН намеснік старшыні Гомельскай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Кацора.**

Паводле слоў Кацоры, Ігар Кекелеў прыязджаў у Гомель 11 красавіка, дзе сустракаўся з абласным кіраўніцтвам партыі, пасля чаго яго больш ніхто не бачыў. 12 красавіка на чыгуначным вакзале Гомеля быў знойдзены партфель-"дыпламат", падобны на той, што быў пры Кекелеве.

Факт знаходжання партфеля быў пададзены міліцыяй і журналістамі мясцовых дзяржаўных СМІ як "раскрыццё тэрарыстычнай змовы", а калі ў кейсе знайшлі спецыфічную літаратуру, сталі гаварыць ужо пра "палітычны тэрарызм". Сярод знойдзеных у "дыпламаце" дакументаў, якія дэманстраваліся ў тэлевізійных сюжэтах абласнога і Беларускага тэлебачання, былі спісы членаў выбарчых камісій па альтэрнатыўных выбарах прэзідэнта, праведзеных апазіцыяй у 1999 годзе, склад ініцыятыўных груп па вылучэнні кандыдатаў у выбарах прэзідэнта, а таксама Статут грамадскай арганізацыі "Грамадзянскія ініцыятывы", якая, як лічаць улады, з'яўляецца філіялам АГП.

На думку Уладзіміра Кацоры, наяўнасць у "дыпламаце" такіх розных папер можа быць правакацыяй, асабліва калі ўлічыць, што ў журналісцкім каментарыі на гэты конт было шмат "прыцягнутых за вушы" палітычных выпадаў.

Уладзімір Кацора паведаміў БелаПАН, што АГП прадпрыняла захады да вышуку Ігара Кекелева. Члены партыі асабіста тэлефанавалі ў бальніцы, моргі, ізалятар часовага ўтрымання і медвыцвярэзнік горада, аднак ён нідзе не знойдзены. Маўчыць у гэтыя дні і ягоны хатні тэлефон.

**Ірына ШАНЦАВА.**

**Уточнение**

**В статье "Украла... киноэпопею" ("Народная воля" №71) в третьем абзаце речь идет об американском фильме "Самый длинный день", который увидел свет в 1962 году.**

**Приносим читателям извинения.**

ФЕЛЬЕТОН

# "КРАСНАЯ КОСИЛКА"

## Упитанные бычки ценой в 10 тысяч долларов исчезли бесследно. Исчезли и деньги. Комбинацию провернул председатель

### Крупнорогатые маневры

Нехорошее предчувствие терзало колхозного быка-производителя Султана. Всю ночь ему снился мясокомбинат.

Сон оказался вещим. Когда, размяв кости, бык по привычке коротко ревнул, то не услышал ответных голосов своего гарема, в котором было больше сотни крутобоких телок колхоза им.Куйбышева Оршанского района.

Удивившись, Султан понюхал пустую кормушку и вопросительно повернул глаз на скотника Василия, случайно забредшего на ферму.

— Чего зыркаешь? — огрызнулся Василий, который давно не ел и накануне разругался с бабой. — Нет больше твоих рогуль. Загнали на грузовики и тю-тю. К другим быкам.

Султан не верил ушам. Уж он-то знал, что в колхозе скота не так много, чтобы сбывать его по сотне голов за раз.

— И кого увезли? — пыхтел бык. — В каждой молодке было по два центнера. Славные вышли бы коровы...

— Раз такое дело — забастую, — фыркнул Султан. — Пускай председатель сам покрывает, кого ему надо. И кормит меня, как пленного, и в одну ночь бобылем сделал. Обидно.

Между тем исчезнувшие рогули были уже в Могилевской области, в совхозе-комбинате "Горки", который находится в одноименном райцентре.

В обмен на взрослых телок в колхоз, если верить документам, доставили полсотни бычков. Но опять-таки по документам, едва успели оприходовать, как тут же списали в расход. В бумагах значится, что укормленные горецкие бычки двумя партиями были вывезены в Минск, в распоряжение производственно-коммерческой фирмы "Сиом". Но в бухгалтерии найдется документ, из которого следует, что получателем бычков был совхоз-комбинат "Горки". Выходит, где бычков взяли, туда их и вернули? А вот в минской фирме "Сиом" никаких документальных следов сделки с оршанским колхозом им.Куйбышева как раз и нет!

Можно даже подумать, что скот-тяжеловес на Оршанщину и не попадал. А отправился прямой наводкой из Горок в Минск или куда подальше: благо, магистраль рядом.

Этот ребус долго прятать было трудно. И при очередной ведомственной ревизии он всплыл на поверхность. И по инстанциям попал в Витебское управление Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД. Сотрудники этой серьезной организации поинтересовались у председателя колхоза С.Яковенко судьбой пятидесяти бычков, стоивших по тем временам почти десять тысяч долларов. Сергей Адамович заверил, что скот достался минской фирме "Сиом", которая за живое мясо должна была поставить равноценную самоходную косилку.

В подтверждение своих слов об этом якобы взаимовыгодном бартере Яковенко предъявил сыщикам доверенность на имя Игоря Нестеренко из фирмы "Сиом", которая в свое время уполномочила этого Игоря получить в колхозе ценную продукцию в обмен на косилку. Оказалось, что доверенность фальшивая, а гражданин с паспортными данными ее предъявителя в Минске не значится. Со слов председателя колхоза, организацией обмена бычков на косилку занимался знакомый Яковенко, заведующий в Горках кафе "Отдых", родич директора совхоза "Горки" А.Ильясова. Словом, дело темное...

"Шахматная" комбинация, осуществленная председателем колхоза имени Куйбышева, была хитроумной и стремительной. В течение нескольких дней крупнорогатые фигуры делали быстрые ходы в разные стороны, а вместе с ними мигрировали крупные денежные суммы. За этой "шахматной доской" противником Яковенко был закон. Но председатель обвел его вокруг пальца. Закон потерпел поражение, проиграл и колхоз имени Куйбышева, потерявший более 100 голов молодняка, который сейчас мог бы приносить доход в виде телят и молока, но не принес ни хозяйству, ни району никакой пользы. Якобы полученные из "Горок" укормленные бычки ценой в 10 тысяч долларов исчезли бесследно. Вместо них на территории колхоза появилась видавшая виды самоходная косилка. Откуда она взялась, толком никто объяснить не в состоянии. Может быть, это та самая машина, которую обязалась отдать за бычков минская фирма "Сиом"? Но тут хвосты не связываются. В бухгалтерии колхоза за "Сиомом" числится долг почти в 10 миллионов рублей, что как раз и составляет цену пропавших бычков. Выходит, что "Сиом" за скот не рассчитался!

Откуда же тогда взялась косилка? Документов на нее нет. По оценке специалистов торгово-промышленной палаты, красная цена этой бэушной машины — немногим больше миллиона. То ли она уже кем-то давно списана, то ли вообще краденая...

Подведем итог шахматной комбинации с крупнорогатыми фигурами. Расклад получается интересный. В минусе — огромное стадо, а в плюсе — подержанная косилка. В денежном же выражении колхоз потерял не меньше 8 тысяч долларов.

Даже школьник средних способностей понимает, что убыль в одном месте равна прибыли в другом. Ясно, что кто-то нагрел руки на "крупнорогатых шахматах". Нетрудно догадаться, кто.

Сотрудники Комитета по организованной преступности и коррупции передали материалы ревизии и расследования в Оршанскую районную прокуратуру. Прокурор Михаил Садкович, наверное, в отчаянии. С одной стороны, факторы для возбуждения уголовного дела хватает. С другой — как пойдешь против "могилевской команды", которую, по примеру А.Лукашенко, собрал на Оршанщине новый председатель райисполкома Владимир Адашкевич. Выходцы из соседней области заняли почти все кресла в райсельхозпроде, руководитель которого Владимир Дедушкин и "сосватал" в колхоз имени Куйбышева своего однокашника и земляка Сергея Яковенко, работавшего в Горецком райжилкомхозе. Яковенко до сих пор живет в Горках, ездит оттуда в колхоз и обратно, делая по 50 км в день, что, понятно, требует денег на горючее. А где эти деньги брать, если казна колхоза пуста? Конечно, сумма, потерянная на афере с коровами и бычками, могла бы пополнить кассу куйбышевцев и помогла бы им получить долгожданную зарплату. Но у Сергея Адамовича Яковенко, надо полагать, личные планы и запросы более серьезны, чем хлеб насущный для колхозников.

Местным жителям пора к этому привыкнуть и прервать воспоминания о коровах. Все равно они уже хвостом накрылись. Зато в колхозе появилась косилка. А потом к ней прибавилась еще одна, точно такая же по качеству. И тоже бесхозная. Но Яковенко все-таки сделал попытку заплатить за эту вторую потрепанную машину таинственной фирме "Резерв М". И вновь — за счет колхоза. Деньги в сумме 12 миллионов рублей "Резерву М" должен был (по замыслу С.Яковенко) перевести Оршанский мясокомбинат в счет своего долга колхозу за сданный на мясо скот. Читатель, возможно, уже догадался, в чей карман попала бы разница между ценой скота и стоимостью далеко не новой косилки. Правда, пока эта дивная сделка не состоялась. К счастью для колхоза.

### Час быка

Султана одолела бессонница. Мало того, что без коров-молодок соскучился, так еще подслушал разговор зоотехника Норко со скотником Василием.

— На днях, Вася, повезем быка в Оршу. Хватит ему зря корм травить. Работы по специальности для него уже нет. Яковенко распорядился сократить бычью должность. Так что будем сдавать бугая на комбинат.

От этих слов Султана передернуло, и он выбрался на деревенскую улицу. С достоинством плывя среди колдобин, увидел что-то большое и красное.

Ненависть к этому цвету быку передалась по мужской линии его рода, начало которого затерялось где-то еще перед коллективизацией.

Глаза Султана налились кровью. Он двинулся поближе к противнику, оказавшемуся косилкой. Она была красная и бежать от быка, похоже, не собиралась.

Султан рассвирепел и с ходу пнул косилку рогами. Машина звякнула и распалась на части. В это мгновение все вокруг осветилось ярким светом. Бык вздрогнул и увидел рядом с косилкой вылезшего из "уазика" Сергея Адамовича Яковенко.

Свет исходил от его головы.

На председателе горела шапка!

### Эпилог, или Вопросы на засыпку

В конце повествования хочется загадать читателям несколько загадок с целью получения прогнозных ответов.

Загадка первая: найдутся ли на Витебщине сыщики, способные до конца расследовать, что случилось с коровами колхоза имени Куйбышева Оршанского района?

Загадка вторая: хватит ли у кого-нибудь из юристов духу возбудить уголовное дело по факту бесследно исчезнувшего скота ценой в 10 миллионов рублей?

Загадка третья: как поступит генеральный прокурор Республики Беларусь Виктор Шейман, если материалы предварительного следствия попадут к нему на стол? Даст делу ход или, наоборот, "прикроет" компромат?

**Сергей БУТКЕВИЧ,**
**Владимир ЖИГУЛОВ.**

ПАМЯЦЬ

# ПРАВЕДНІКІ СВЕТУ

## з вёскі Мядзведня

Пачалася гэтая поўная драматызму гісторыя летам 1941 года. У вёску Паськавая Горка, дзе жыў з сям'ёй — жонкай і чатырма дзецьмі — каваль Айзік Гельфанд, прыехалі немцы і забралі яго старэйшага пятнаццацігадовага сына Барыса — па падазрэнні ў сувязі з мясцовым камсамольскім падполлем. Юнака праз тры дні адпусцілі.

Але гэта насцярожыла каваля — сям'я ўжо была на ўліку. Сябра Барыса па школе Уладзімір Дзядзюля з вёскі Селішча папярэдзіў Гельфандаў, што ў Старых Дарогах немцы зганяюць яўрэяў у гета і што такая доля не міне іх, калі не схаваюцца. Параіў пераехаць на жыхарства ў невялікую лясную вёсачку Вуглы да яго бабулі Вольгі Кароль. Яе з мужам у 1930 годзе раскулачылі і выслалі на Поўнач, там муж неўзабаве памёр ад тыфу, яна перад вайной дабралася да сваёй вёскі і дажывала век адна. Бабуля па просьбе дарослай дачкі Ганькі Лыч (мужа яе забраў у 1937 годзе "чорны воран", і ён бясследна знік) прадаставіла сваю хату для сям'і каваля. У кузні яму знайшлася работа, вяскоўцы выдзелілі і надзел зямлі.

Немцы і паліцаі высачылі сям'ю каваля і зімой 42-га наладзілі аблаву. Аднак суседзі своечасова папярэдзілі, і Гельфанды сышлі ў суседнюю вёску Мядзведня. Там іх у склепе схавалі Марыля і Амяльян Астрэйкі. Тыдні два пражылі там, а потым перабраліся ў вёску Селішча да даваеннага сябра Айзіка — Арсена Няронскага. Калі аднойчы гаспадар даведаўся, што ў вёску едуць паліцаі, дарослых Гельфандаў закрыў у склепе, а дзяцей паклаў на ложку побач са сваімі немаўлятамі. І калі ў хату зайшоў паліцай і спытаў, ці не бачыў ён часам каго-небудзь з сям'і каваля, Арсен выдаў усіх дзяцей за сваіх, родных.

Вясной 42-га Гельфанды вярнуліся ў Вуглы, засеялі свой надзел. Развязка надышла 6 жніўня. Успамінае Ёсіп Айзікавіч.

— Мы з бацькам і братам Барысам якраз прывезлі сена да гумна бабулі Волькі. Убачылі на вуліцы крытую нямецкую машыну — і бягом да жытнёвага палетку. Нас заўважылі і адкрылі агонь з аўтаматаў. Кулі свісталі над галавой, але мы праз жыта дабеглі да лесу. Туды неўзабаве прыйшла і маці, яна якраз падкопвала ў полі раннюю бульбу. А маіх малодшых братоў, Уладзіка і Сямёна, немцы забралі разам з бабуляй Волькай Кароль і адвезлі ў Старыя Дарогі. Хлопчыкаў здалі ў гета, дзе яны і загінулі разам з усімі вязнямі. Бабулю неўзабаве адпусцілі, напэўна, улічылі яе састарэласць і тое, што яна была ахвярай раскулачвання.

У той жа дзень да нас у лес з суседняй вёскі прыйшлі, ратуючыся ад паліцаяў і немцаў, калгасніца Яўгення Элькіна з дзвума дарослымі дочкамі. Нас стала сямёра. Паўстала пытанне — як жыць далей? Трое сутак галодныя блукалі па лесе, збіралі грыбы, ягады. Нарэшце, на лясной дарозе напаткалі жыхароў вёскі Мядзведня Антося Мікулу і яго жонку Фрасыню. Бацька папрасіў, каб аб нашым месцы знаходжання яны перадалі Марылі Астрэйка. Мікулы праз дзень прынеслі нам хлеба, бульбы, вараных буракоў, і мы змаглі пратрымацца яшчэ дні тры. Начавалі ў збудаваным бацькам будане. Калі ж прыйшла восень з дажджамі і халоднымі начамі, Лаўрын Стасевіч, жыхар Мядзведні, прынёс нам рыдлёўку, сякеру, ноччу прывёз цэглы — для печкі-грубкі, бо мы рашылі збудаваць зямлянку. За два дні ўтрох (мне тады ішоў дванаццаты год) выкапалі яе, бо не ведалі, колькі часу давядзецца жыць на правах рабінзонаў, магчыма, усю зіму.

Бацька меў пры сабе вінтоўку-трохлінейку і пісталет — знайшоў іх у першыя дні вайны, калі праз нашу вёску адступалі чырвонаармейцы. Неяк ён мне сказаў: "Калі немцы ці паліцаі высачаць нас — буду адстрэльвацца да апошняга патрона, жывым не здамся". Ужыць зброю не давялося, сяляне навакольных вёсак захоўвалі тайну нашага седлішча і як маглі дапамагалі — хто чым мог. Больш таго, Арсен Няронскі аднойчы, вярнуўшыся са Слуцка, пусціў пагалоску, быццам нашу сям'ю немцы адшукалі і ўжо расстралялі ў тутэйшай турме.

Некалькі разоў усёй сям'ёй ноччу мы прыходзілі ў хату Марылі і Амяльяна Астрэйкаў. Гаспадыня завешвала посцілкамі вокны, распальвала на прыпечку смаляны корч, частавала разварыстай бульбай, аладкамі, малаком, з сабою давала пару боханаў хлеба, торбачку мукі для заціркі.

Бацька настойліва шукаў па начах людзей, якія б дапамаглі нам дабрацца на Любаншчыну, да партызан. Арсен Няронскі ўжо трымаў сувязь з брыгадай імя Кірава, якой камандаваў Аляксей Шуба, ураджэнец тутэйшых мясцін, урач-хірург па прафесіі. Аднойчы Няронскі сказаў бацьку, што камбрыг ведае пра нас, абяцаў даслаць партызан у лес за Мядзведню. Мы акрыялі, паявілася вера ў хуткае выратаванне. А тут і снег выпаў, ударылі маразы, хадзіць у вёскі стала небяспечна — па слядах немцы ці паліцаі маглі высачыць.

Нарэшце, у канцы снежня 42-га года сын вуглянскага жыхара Базыля Доўнара Павел з ведама Арсена Няронскага вывеў на зямлянку ўзвод партызан. Прыйшло чалавек трыццаць.

— Да канца дзён сваіх не забыць той марознай зорнай ночы, — успамінае са слязамі на вачах Ёсіп Айзікавіч. — Мы выйшлі з зямлянкі і вачам сваім не паверылі — прыйшло збавенне наша, жанчыны ўпалі ніцма і сталі абдымаць ногі партызан, усе плакалі. Хтосьці з партызан сунуў мне ў руку кавалак хлеба. Нічога смачнейшага потым у жыцці я не зведаў — то быў хлеб свабоды. І мы праз ноч і дзень дабраліся да вёскі Асавец на Любаншчыне, там размяшчаўся штаб брыгады. Бацьку з братам, дачок Яўгенні Элькінай залічылі ў атрад байцамі, маёй маці і Яўгенні знайшлася справа па гаспадарцы. Шмат давялося ўсяго пражыць, яшчэ і ўбачыць, зведаць і голад, і страх, але ўсім пашчасціла застацца ў жывых і дачакацца прыходу Чырвонай Арміі летам 44-га.

Мінулі гады. Амаль нікога з тых жыхароў лясных вёсак, хто ў гады акупацыі працягнуў руку дапамогі сем'ям каваля і калгасніцы-ўдавы, няма ў жывых. Без пары ад нервовага захворвання памёр і Айзік Гельфанд. Яго сын Барыс пайшоў у 44-м на фронт і атрымаў цяжкае раненне. Жыве зараз у Мінску. Ёсіп Айзікавіч на працягу дзесяці гадоў узначальваў аздараўленчы кааператыў "Бадзёрасць" у Слуцку. Цяпер, пасля распаду яго, працягвае працаваць урачом-неўрапатолагам як прадпрымальнік, да яго штодзённа прыходзяць хворыя, і ён аказвае дапамогу.

Гадоў сем таму ён склаў і перадаў у пасольства Ізраіля ў Мінску спіс старадарожскіх дабрачынцаў, хто, рызыкуючы жыццём, ратаваў іх ад смерці ў гета. І вось днямі ад супрацоўнікаў аддзела "Праведнікі свету" інстытута Яд Вашэм у Ізраілі на адрас Ёсіпа Гельфанда прыйшоў ліст з паведамленнем: "У знак глыбокага прызнання за дапамогу, аказаную яўрэйскаму народу ў гады другой сусветнай вайны, жыхарам вёсак Вуглы, Мядзведня і Селішча — Ганне Лыч, Арсену Няронскаму і Марылі Астрэйка — прысвоена ганаровае званне "Праведнікі свету" пасмяротна. Медалі і ганаровыя граматы на іх імя будуць высланы ў пасольства Ізраіля ў Мінску для ўручэння іх родным. Прозвішчы праведнікаў будуць выгравіраваны на сцяне гонару ў Яд Вашэм (мемарыял ахвярам Халакосту. — **М.Т.**).

У сваю чаргу Ёсіп Гельфанд рашыў увекавечыць прозвішчы праведнікаў і тых, хто падсабляў ім на іх радзіме. За вёскамі Мядзведня ён мае намер паставіць на насыпным пагорку камень-валун, а да яго прымацаваць чыгунную пліту з пералікам дзесяці прозвішчаў дабрачынцаў.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**г.Слуцк.**

ШТРИШОК

## Этот взгляд затрагивает не каждого

Мы на улице. Туда-сюда ходят люди, разные, разного социального положения. Есть и те, кто просит милостыню. Но замечал ли ты, кто еще просит помощи? Чьи глаза заглядывают в тебя?

Как мы смогли позволить, чтобы лучший друг человека вот так стоял и просил милостыню?

Ты никогда такого не увидишь в Германии или в Швейцарии. Там даже самая несимпатичная дворняжка стоит денег и немалых, по нашим меркам.

А у нас: взял, поиграл, надоело, выбросил. Выбрасываем, может, единственное существо, которое тебя любит, любит искренне, бескорыстно, просто так, потому что ты есть.

Все больше и больше мы видим их на улицах. Как ловко они научились вымаливать еду! Бывает, так посмотрит... Но, к сожалению, этот взгляд затрагивает не каждого.

Как с этой проблемой справляется государство? Да, конечно, сейчас за проживание собаки дома берется налог. Мол, это помешает легкомысленным заводить живую игрушку. По идее, на эти деньги должны строиться площадки для выгула, приюты. Вроде должна проблема потихоньку решаться, но — нет. Бездомных попрошаек становится больше.

Что делать? Давайте попробуем начать с себя. Подумаем, прежде чем завести нового члена семьи: сможем ли мы посвятить минимум десяток лет этому созданию? Начнем видеть в них таких же детей природы. Или у нас нет такого чувства, как жалость?

Неужели так будет всегда? Может, наше общество не готово к такой ответственности?

**Юлианна ГОМАНЮК,**
**студентка-журналистка.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Разрешение на свидание – высочайшая милость

*Обитатели камеры смертников находятся в лучших условиях, чем их неосужденные "коллеги" из камер следственного изолятора*

Владимир Равков за колючей проволокой 21 месяц. 17 месяцев на тюремных нарах его продержал следователь прокуратуры В.Терехович и вот уже пятый месяц держит судья Верховного суда В.Сукач.

Мало того, что полковник Сукач, еще не установив в судебном заседании вину своего "подопечного", держит подполковника Равкова на нарах, так и не дает свидания с родственниками.

К сожалению, белорусский Уголовно-процессуальный кодекс составлен так, что и следователи, и суд обращаются с арестованными бесчеловечным образом.

Тем не менее бороться с наследниками сталинского судьи Ульриха все же нужно. Потому как в УПК (статья 1 часть 4) записано:

*"Международные договоры Республики Беларусь, определяющие права и свободы человека и гражданина, в уголовном процессе применяются наряду с настоящим Кодексом".*

А международный договор — Свод принципов защиты всех лиц, подвергнутых задержанию или заключению в какой бы то ни было форме, гласит:

"*К задержанным лицам применяется режим, соответствующий статусу* ***неосужденных*** *лиц* (принцип 8)";

*"Задержанному или находящемуся в заключении лицу предоставляется, в частности, право на посещение членами семьи и переписку с ними, а также соответствующую возможность сноситься с внешним миром согласно разумным условиям и ограничениям, содержащимся в законе и в установленных в соответствии с законом правилах* (принцип 19)".

Аналогичная норма изложена и в белорусском УПК (часть 9 статьи 126): *"Порядок и условия содержания лиц, заключенных под стражу, определяется законом".*

В соответствии с Конституцией и статьей 16 УПК лицо, обвиняемое в совершении преступления, считается невиновным. Следовательно, условия содержания неосужденного лица не могут быть строже условий содержания лиц, осужденных к лишению свободы.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник, БХК.**

